**СОНЦА:**

Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 4.39, 21.38, 16.59;
Віцебск — 4.20, 21.36, 17.16;
Магілёў — 4.28, 21.27, 16.59;
Гомель — 4.34, 21.17, 16.43;
Гродна — 4.66, 21.53, 16.58;
Брэст — 5.05, 21.43, 16.38.

**МЕСЯЦ:**

Першая квадра 8 чэрвеня.



# ЗВЯЗДА

9 ЧЭРВЕНЯ 1992 г.
аўторак, № 114 (21892)




● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель


# РОЗГАЛАС

## ХВАРЭЦЬ СТАЛІ МЕНШ. ПАМІРАЦЬ — ЧАСЦЕЙ

**Як ні парадаксальна гэта здаецца на першы погляд, але з пачаткам пераходу на рынačныя адносіны пачала скарачацца колькасць зваротаў бабруйчан да медыкаў.**

Так, сёлета, паводле звестак статыстыкі, за тры месяцы на 30 працэнтаў зменшылася ў параўнанні з мінулым годам колькасць захворванняў з часовай стратай працаздольнасці. Менш стала хворых і ў бальніцах горада. І гэта, заўважце сабе, пры вострым дэфіцыце медыкаментаў, нават самых звычайных.

Але людзі здаравейшымі, на жаль, не сталі. Бо адначасова зарэгістравана ўзросшая колькасць выпадкаў раптоўнай смерці. Падобнае здарылася, напрыклад, на заводзе вымяральных прыбораў, арэндным прадпрыемстве «Беларусьгуматэхніка» і іншых. Адсюль можна зрабіць вывад, што, рызыкуючы сваім здароўем і нават жыццём, людзі не звяртаюцца ў паліклінікі, не ідуць у бальніцы, бо баяцца трапіць у спіс звальняемых і апынуцца ў якасці беспрацоўных за варотамі прадпрыемстваў.

## Па пухавіцкаму часу

МАР'ІНА ГОРКА. Рашэннем мясцовага райвыканкома многія арганізацыі і прадпрыемствы раёна сталі працаваць па пухавіцкаму часу. І хоць стрэлкі на гадзінніках ніхто не пераводзіў, на работу людзі пачалі прыходзіць на гадзіну раней. Не з 9 раніцы, а з 8 стаў працаваць і сам ініцыятар — райвыканком, сельскія Саветы.

Рашэнне было прынята пасля абмеркавання ў многіх калектывах. Асноўны аргумент — і на ўласных прысядзібных участках таксама работы хапае.

## Свята — кожны год

ВАЎКАВЫСК. (А. Дук). Жыхары райцэнтра рыхтуюцца адзначыць 740-годдзе заснавання горада. Упершыню Ваўкавыск упамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1252 годам. У наступным годзе Ваўкавыск адзначыць 490 гадоў з дня атрымання Магдэбургскага права.

ПАВЕДАМЛЯЕМ ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# На граніцы зноў трывожна

**Многія рэспубліканскія выданні, у тым ліку і «Звязда», паведамлялі пра тое, што за апошнія дні дзякуючы намаганням пагранічнікаў удалося затрымаць дзве групы парушальнікаў граніцы. Прадухілілі і вываз за мяжу вялікай колькасці старадаўніх ікон, іншых каштоўнасцей. Сёння мы паведамляем пра гэта больш падрабязна....**

Сірэны на заставах гучаць даволі часта. Здараюцца вучэбныя трывогі, калі камандаванне пажадае праверыць гатоўнасць і вывучку падначаленых; нярэдка сігналізацыя спрацоўвае і ад дзікіх жывёл, якія па неасцярожнасці зайшлі ў зону. А бывае і парушальнік спрабуе перасячы мяжу.

І на гэты раз, калі спрацавала сігналізацыя, а начальнік заставы маёр Аляксандр Белавусаў падняў пагранічнікаў «у ружжо», наўрад ці мог уявіць гэты вопытны ў сваёй справе прафесіянал, якія выпрабаванні чакаюць наперадзе яго байцоў.

***

Была самая поўнач, 28 хвілін першай гадзіны ночы, калі А. Белавусаў выслаў да месца здарэння трывожную групу з 6 чалавек на чале са сваім намеснікам старшым лейтэнантам Алегам Обухавым. Адначасова ў бок граніцы была выслана і група прыкрыцця.

Хвілін праз дваццаць група прыбыла на месца. Звярнулі ўвагу, што абарваны дрот у сістэме сігналізацыі. І тут жа мноства свежых слядоў на кантрольна-следавой паласе. Яны ішлі ў бок граніцы.

Важаты яфрэйтар Аляксандр Добрывечар пусціў па следу службовага сабаку Інгу. Той не паспеў прабегчы і некалькі крокаў, як жаласна заскавытаў. Здарылася самае горшае: зламыснікі апрацавалі сляды спецыяльным ядавітым парашком, вось сабака і апёк слізістую абалонку.

Выклікалі падмогу. Неўзабаве на след выйшаў радавы Сяргей Шванскі з сабакам Білі. І ў гадзіну 10 хвілін ночы пачалі праследаванне.

Ноч, цемра. Да таго ж мясцовасць даволі складаная: лес, балоты. Улічваючы гэта, запрасілі падмогу з Брэсцкага пагранатрада. Адтуль неадкладна выслалі рэзервовую групу, якая роўна праз гадзіну таксама ўключылася ў праследаванне парушальнікаў.

Мінула яшчэ адна гадзіна пошукаў. Аб тым, што парушальнікаў шмат, гаварылі сляды на кантрольна-следавой паласе. Хто яны? З якой мэтай спяшаюцца за мяжу? Ці ёсць у іх зброя і ці гатовыя яны яе прымяніць? А таму дзейнічаць даводзілася з выключнай асцярожнасцю.

Нарэшце ў тры гадзіны дзесяць мінут парушальнікаў затрымалі ў нейкай сотні метраў ад граніцы. Іх аказалася 16 чалавек.

У выніку папярэдняга следства было ўстаноўлена, што ўсе яны — грамадзяне Пакістана. А вось як трапілі сюды, — цэлая гісторыя. Прынамсі, па іх словах, яны належаць да народнай партыі Пакістана. Прыбылі ў былы Саюз па турысцкіх пуцёўках. Да гэтага адзін аднаго не ведалі. Нехта трапіў у Ташкент, хтосьці ў Сочы, Забайкальск... Прычым прыехалі таксама з розных краін: адзін праз Турцыю, другі праз Кітай... Але іх напаткала адна і тая ж бяда: усе яны пратэрмінавалі свае візы яшчэ некалькі месяцаў назад. Як бы там ні было, але іх дарогі ў канчатковым выніку сышліся ў Маскве, дзе яны і пазнаёміліся. А паколькі шлях дадому ім быў заказаны (візы ж пратэрмінаваныя), вырашылі махнуць у Германію.

Іх знаёмы ў «белакаменнай», які абяцаў ім зрабіць адпаведныя візы, запатрабаваў па 2 тысячы долараў з кожнага. Такой вялікай сумы ў іх не аказалася, а таму сышліся на значна меншай. Але цяпер ім трэба было самім пераходзіць граніцу ў раёне Брэста.

На поездзе прыбылі ў пагранічны Брэст, размясціліся ў гасцініцы. Праз тры дні іх пасадзілі ў нейкі фургон і давезлі да граніцы. Там падвялі да сістэмы, паказалі, як пераадолець перашкоду. А далей яны ўжо топалі ўласнымі ножкамі...

Не ведаю, як у вас, дарагія чытачы, а ў мяне такое «прызнанне» затрыманых ніякага даверу не выклікае. Можна было б наогул прыняць усё гэта за недарэчны жарт, розыг-


**(Заканчэнне на 3-й стар.).**


## Разам — дружная сям'я

Урад ЗША гатоў супрацоўнічаць з урадам Рэспублікі Беларусь у галіне гуманітарнай дапамогі, — гэта заява каардынатара акцыі «Экспрэс-надзея» Джона Мамфрэда стала лейтматывам прэс-канферэнцыі для журналістаў, якая адбылася ў пятніцу ў Савеце Міністраў.

Як паведамлялася ўжо, раніцай у мінулую пятніцу пачалася шырокамаштабная аперацыя па аказанню бясплатнай дапамогі жыхарам Беларусі. Яе арганізатар — урад ЗША, а пасрэднікам выступіла прыватная некамерцыйная арганізацыя «Сіці хоуп інтэрнэшнл». Але мала хто ведае, якую велізарную работу давялося правесці аддзелу Саўміна па гуманітарнай дапамозе, што паступае з-за рубяжа, на чале з яго загадчыцай Людмілай Сыраегінай, перш чым кантэйнеры з прадуктамі і дзіцячым харчаваннем перасеклі граніцу рэспублікі.

Да 17 чэрвеня будзе працягвацца аперацыя «Экспрэс-надзея». Звыш трох з палавінай тысяч тон прадуктаў харчавання атрымаюць маючыя патрэбу ў дапамозе, а таксама клінікі, дамы састарэлых і інвалідаў, школы-інтэрнаты Мінска, Гомеля, Магілёва, Брэста і многіх населеных пунктаў гэтых абласцей.

**Лідзія ПЕРАСЫПКІНА,**
**кар. БелТА.**

## За пуцёўкі дзецям заплаціў прафком

**Звонкімі дзіцячымі галасамі напоўніўся піянерскі лагер «Беларусь» Мінскага трактарнага завода. Сюды на адпачынак у першую змену прыехалі 500 хлапчукоў і дзяўчынак — дзяцей трактаразаводцаў. Поўны кошт пуцёўкі склаў 3.353 рублі. Але завадчане заплацілі толькі 330 рублёў плюс 14 рублёў на кіно. Астатнія ж затраты ўзяў на сябе прафсаюзны камітэт прадпрыемства.**

**Усяго за лета тут паправяць сваё здароўе 1,5 тысячы дзяцей.**

**Алег ПРАЦЬКО.**

## Камуністы заяўляюць аб сабе

ГОМЕЛЬ. Тут адбыўся агульнагарадскі сход камуністаў — членаў ПКБ. На ім прысутнічалі каля 400 чалавек (у рабоце схода ўдзельнічалі таксама прадстаўнікі гэтай партыі з дзевяці раёнаў вобласці).

З дакладам «Аб палітычным моманце» выступіў былы першы сакратар гаркома КПБ Мікалай Пугачоў, пасля чаго ў спрэчках прынялі ўдзел яшчэ дзесяць чалавек. Усе яны гаварылі аб тым, у якім жабрацкім становішчы апынуліся мільёны людзей былога Саюза, аб міжнацыянальных сутычках, аб катастрафічным зніжэнні аб'ёму вытворчасці, шалёных цэнах, росце беспрацоўя.

У гэтай абстаноўцы, як лічаць неакамуністы, сур'ёзную дзейнасць па пераадоленню крызісу павінна разгарнуць менавіта іх партыя, якая павінна лічыць сябе роўнай сярод іншых партый і аб'яднаць свае намаганні з «прагрэсіўнымі сіламі». На сходзе была створана гарадская тэрытарыяльная арганізацыя партыі камуністаў Беларусі, яе выканаўчы камітэт. Выканкому даручана стварыць пярвічныя арганізацыі горада. Вызначаны і тэрмін – 2 месяцы.

**Сёння цяжка ўсім прадпрыемствам, і асабліва тым, прадукцыя якіх не карыстаецца попытам. Гэтага нельга сказаць аб наваполацкім вытворчым аб'яднанні «Палімір». Яго вырабы не маюць праблем са збытам. Яны добра вядомыя ва ўсіх кутках Беларусі і за яе межамі.**

**НА ЗДЫМКУ: аператар вытворчасці поліэтылену Валянціна ГРЭЦКАЯ.**

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**



НАШ КАМЕНТАРЫЙ

# КУДЫ НАС ВЯДУЦЬ «НАПРАМКІ» ЎРАДА?

Больш грунтоўныя і ў першую чаргу крытычныя ацэнкі прынятых урадам «Асноўных напрамкаў палітыкі... па прадухіленню спаду вытворчасці і фарміраванню ўмоў выхаду з крызісу» яшчэ наперадзе. Але ўжо зараз варта адзначыць: у іх, напэўна, як ніколі з усёй адкрытасцю сказана аб надзвычай цяжкім стане нашай эканомікі, аб тым, што з'явілася вынікам гэтага. Не маскіруецца і даволі змрочная перспектыва. Тая дынаміка цэн, якая складваецца, з іх імкненнем да сусветных, стварае пагрозу з'яўлення значнага адмоўнага сальда рэспублікі ў гандлі з нашым «бліжэйшым» замежжам. Прасцей кажучы, гэта пагроза стаць вялікімі даўжнікамі, апусціцца яшчэ ніжэй таго ўзроўню, якога «дасягнулі»? Тая «унікальная» самаедская вытворчасць, якая створана ў рэспубліцы, крайне немабільная, неэканамічная, рэсурсаненажэрная, неканкурэнтаздольная, адарваная ад сапраўдных патрэб нашага насельніцтва, ужо сёння пагражае нам пэўнымі непрыемнасцямі. Гэта перспектыва вызначана ў «Напрамках...» наступным чынам: далейшы рост дэфіцыту бюджэту, а разам з ім і ўнутранага дзяржаўнага доўгу. Рэспубліка будзе вымушана пайсці на значнае згортванне інвестыцыйных і сацыяльных праграм. Карацей кажучы, варта адкрыта прызнаць: мы працавалі, можа, і добра, але крайне неэфектыўна, калі мець на ўвазе выгаднасць, даходнасць выраблямай прадукцыі — з улікам прывазных рэсурсаў і іншых фактараў. І гэта ўвогуле не наша віна, нам цяпер проста даводзіцца расхлёбваць пакінутую нам незайздросную спадчыну.

Каб стаць па-сапраўднаму незалежнымі, перш за ўсё трэба стварыць менавіта незалежную эканоміку, структурна перабудаваць яе. Такая задача і ставіцца ў «Напрамках...». Вызначаны пэўныя прыярытэты. Гэта ў першую чаргу сельская гаспадарка і вытворчасць тавараў народнага спажывання. Разам з тым намечана «разумнае» згортванне рэсурсаёмістых вытворчасцей — перш за ўсё тых, якія вызначаюць адмоўныя гандлёвыя і плацежныя балансы рэспублікі з краінамі СНД.

Палітыка структурнай перабудовы эканомікі, як адзначаецца ва ўрадавым дакуменце, павінна быць падпарадкавана перш за ўсё і галоўным чынам патрэбнасцям рэспублікі. У аснову спецыялізацыі кладуцца нематэрыялаёмістая і неэнергаёмістая прадукцыя прамысловасці, прадукцыя льнаводства і мясамалочнай жывёлагадоўлі, а таксама паскоранае развіццё галін спажывецкага комплексу, навукаёмістых вытворчасцей і экспартнага патэнцыялу. Адна з важнейшых мэт — стварэнне канкурэнтаздольнага асяроддзя.

Важнейшы кірунак дзейнасці ўрада — забеспячэнне фінансавай стабілізацыі, прычым адным з напрамкаў выбрана стварэнне ўласнай грашова-крэдытнай і фінансавай сістэмы. Тое, у чым яшчэ нядаўна многія сумняваліся, і гэтыя сумненні мелі аб'ектыўную аснову, калі мець на ўвазе стварэнне і першыя крокі СНД, — становіцца рэальнасцю. На парадку дня — пытанне ўвядзення ў рэспубліцы паўнацэннай валюты, пры гэтым прызнаецца, што немагчыма стабілізаваць наш фінансава-крэдытны рынак у рамках адзінай рублёвай зоны. Вядома, можна папракнуць урад: маўляў, чаму раней гэтага не ўсвядомілі? Але ці трэба, калі мець на ўвазе, што яшчэ не так даўно, ды і цяпер, многія былі проста не гатовыя да падобнага кроку.

Яшчэ адзін з асноўных кірункаў — масавая прыватызацыя дзяржаўнай уласнасці, прычым намечана не расцягваць яе па тэрмінах, не выстройваць прыватызуемыя сферы ў штучнай паслядоўнасці: спачатку гандаль, потым «паслугі» і ўжо ў канцы буйныя прадпрыемствы... Прадугледжана скараціць і пералік прадпрыемстваў, відаў маёмасці, якія не прыватызуюцца. Такім чынам, адназначна заяўлена аб курсе на прыватную ўласнасць, і гэта можна толькі вітаць. Гэта курс здаровага эканамічнага сэнсу. Прычым важна падкрэсліць: бадай, упершыню на высокім узроўні прагучала думка аб тым, што павінна быць прадугледжана эфектыўная сістэма прававой абароны прыватнай уласнасці.

Варта таксама звярнуць увагу і на наступнае: урад прадугледжвае падатковыя паслабленні для прыватызуемых прадпрыемстваў — тэрмінам да двух гадоў. Разам з тым ён увогуле намячае закласці менавіта цераз падаткі стымулы для развіцця прадпрымальніцтва, адпаведна, па выніках работы за паўгоддзе плануе падрыхтаваць змяненні ў падатковым заканадаўстве.

І яшчэ адзін важнейшы напрамак: знешнеэканамічная дзейнасць. Яе арыенціры можна абазначыць наступным чынам: усямерны экспарт прадукцыі рэспубліканскіх прадпрыемстваў і імпарт капіталаў і інвестыцыйнай прадукцыі. Заяўлена наконт таго, каб адмяніць падаткі і мытныя пошліны на экспарт усіх відаў тавараў і паслуг, а таксама ўсе экспартныя квоты і ліцэнзіі, за выключэннем строга абмежаванага спісу тавараў. З другога боку, у «Напрамках...» даволі яскрава прасочваецца задума любым шляхам прыцягнуць у рэспубліку замежных прадпрымальнікаў, заходніх інвестараў, зняць для іх рознага роду абмежаванні, нават дапусціць да прыватызацыі...

Шчыра сказаць, у апошнім выпадку нялёгка нам будзе з імі цягацца. І тым не менш, усе гэтыя меры прадыктаваны жыццём. Нягледзячы на апошнія змены, наша эканоміка паранейшаму была па сутнасці закрытай, варылася ва ўласным саку. Сусветная ж практыка, з аднаго боку, і сумны вопыт былога Саюза — з другога, пераканаўча даказалі, да чаго прыводзяць, адпаведна, адкрытасць эканомікі і яе поўная адарванасць, ізаляванасць ад іншых эканомік. Мы гэтыя горкія плады і пажынаем цяпер. І яшчэ, відаць, доўга будзем пажынаць. Прынамсі, мы яшчэ не так даўно баяліся (многія і цяпер баяцца), што капіталісты скупяць нас на корані. А аказалася, што нікому і не патрэбны, бо нас да ўсяго ж трэба яшчэ і карміць...

Здаецца, нарэшце пэўныя захады да інтэграцыі ў сусветную, і перш за ўсё ў заходнееўрапейскую, эканоміку робяцца. Ці пераадолеем толькі сваю сацыялістычную свядомасць?

**Іван БАРАНОЎСКІ,**
**аглядальнік «Звязды».**

# РАДЫЁФАКТ

В. А. Супранкова — супрацоўніца Інстытута сарбентаў АН Украіны — паведаміла ў інтэрв'ю карэспандэнту праграмы «Радыёфакт» пра паспяховыя выпрабаванні цуда-лекаў украінскіх вучоных. Прымяненне новага прэпарату дазваляе ў 6—8 разоў зменшыць колькасць сарбентаў у арганізме чалавека. Да таго ж павышаюцца ахоўныя функцыі арганізма.

Дырэктар гомельскага завода пускавых рухавікоў Б. М. Жабінскі прапанаваў наладзіць выраб гэтых лекаў на сваёй вытворчасці. Аднак здзіўлены пазіцыяй першага намесніка старшыні Дзяржкамітэта Рэспублікі Беларусь па праблемах Чарнобыля В. М. Бур'яка, які лічыць, што гэта праблема не заслугоўвае ніякай увагі.

Дарэчы, Прэзідэнт Украіны Л. Краўчук у час свайго візіту ў Індыю браў з сабой гэтыя лекі.

***

**Як вядома, былы старшыня Сялянскага саюза і адзін з членаў ГКЧП В. Старадубцаў вызвалены з турмы пад падпіску аб нявыездзе. 8-га чэрвеня адвакаты іншых падследчых па справе ГКЧП маюць намер сустрэцца з кіраўніцтвам Вярхоўнага Савета Расіі і перадаць калектыўнае прашэнне аб змяненні меры абмежавання для сваіх падабаронных.**

***

Па словах аднаго з чыноўнікаў банка Эстоніі, крона з'явіцца хутка. Але не вырашана пакуль пытанне аб курсе, па якім насельніцтву будуць абменьвацца рублі. Па рознага роду ўскосных даных, ён можа скласці 70—100 рублёў за адну эстонскую крону.

Скептычна настроеныя эканамісты тым часам прадракаюць новай нацыянальнай валюце пагібель у віры інфляцыі. Але ў цяперашняй сітуацыі, відаць, верх бяруць палітыкі. Для іх увядзенне нацыянальнай валюты можа стаць своеасаблівым уваходным білетам у новы парламент, выбары якога адбудуцца сёлетняй восенню.

***

**10 чэрвеня ў Малдове будуць уведзены купоны. Як заявіў прадстаўнік нацыянальнага банка рэспублікі, іх ні пры якіх абставінах немагчыма будзе падрабіць. Казначэйскія білеты аддрукаваны на паперы тыпу дзяржзнакаўскай.**

***

Прысягу на вернасць народу Беларусі прыняў асабовы састаў Жыткавіцкага раённага аддзела ўнутраных спраў.

Падобныя акцыі неўзабаве пройдуць у іншых райаддзелах міліцыі Рэспублікі.

***

**Фестываль музыкі маладой Беларусі пройдзе 17—19 ліпеня ў Рэспубліцы Польшча. Ён будзе насіць назву «БАСОВІЧЫ-92».**

**У фестывалі прымуць удзел беларускамоўныя рок- і поп-гурты, а таксама вядомыя барды. Для пераможцаў фестывалю ўстаноўлены немалыя грашовыя прызы.**

# А можа, Масква проста не ўспрымае нас усур'ёз?

**Беларусь — адзіная з усіх дзяржаў СНД, якая дамовілася з Генеральным штабам Аб'яднаных Узброеных Сіл аб падзеле воінскіх часцей, што знаходзяцца на яе тэрыторыі, на Аб'яднаныя стратэгічныя сілы, падначаленыя Генштабу СНД, і рэспубліканскія ўзброеныя сілы.**

**У канцы красавіка закончыліся перамовы паміж дэлегацыяй камандавання АУС, якую ўзначальваў генерал-палкоўнік П'янкоў, і дэлегацыяй Рэспублікі Беларусь на чале са старшынёй Камісіі ВС па пытаннях нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю Мечыславам Грыбам. У выніку быў выпрацаваны Пратакол з пералікам часцей, якія ўвайшлі ў састаў Аб'яднаных стратэгічных сіл СНД.**

**Гэты дакумент быў падпісаны прэм'ер-міністрам Беларусі Вячаславам Кебічам і Галоўнакамандуючым АУС маршалам Яўгенам Шапашнікавым. Пратакол набудзе моц пасля яго ратыфікацыі Радай старшынь дзяржаў СНД. Але фактычна гэты дакумент працуе ўжо зараз.**

Чаму менавіта Беларусь першай здолела дамовіцца з Генштабам? На гэты конт могуць быць розныя меркаванні. Магчыма, у Маскве настолькі звыкліся бачыць праявы лаяльнасці з боку Беларусі, што не заўважаюць, як Мінск за спіной Украіны крок за крокам паўтарае яе шлях. Магчыма, Масква проста не ўспрымае Беларусь сур'ёзна: нават у якасці самай мілітарызаванай дзяржавы Еўропы наша рэспубліка не здольна пагражаць інтарэсам Расіі. Дарэчы, С. Шушкевіч, выступаючы перад навучэнцамі Беларускай акадэміі кіравання, паведаміў, што адразу пасля таго, як Беларусь, кіруючыся сваім нейтралітэтам, не падпісала ў Ташкенце Пагаднення аб калектыўнай бяспецы, у беларускіх воінскіх часцях, у прыватнасці Віцебскай дывізіі ПДВ, з'явіліся прапагандысты з ведамства Шапашнікава, якія вялі агітацыю за адзіную армію. Па словах С. Шушкевіча, Беларусь выказала пратэст, і Генштаб АУС СНД прызнаў сваю памылку.

На думку старшыні парламенцкай падкамісіі па абароне Леаніда Прывалава, якую ён выказаў у гутарцы з карэспандэнтам «Независимой газеты», перамовы з дэлегацыяй Генштаба праходзілі канструктыўна. З яе боку не было пярэчанняў наконт лёсу воінскіх часцей Беларускай ваеннай акругі і значнай колькасці часцей цэнтральнага падпарадкавання—яны адышлі да рэспубліканскіх узброеных сіл. Але адбылася дыскусія аб будучай прыналежнасці Віцебскай паветрана-дэсантнай дывізіі, палка транспартнай авіяцыі, Пінскага навучальнага цэнтра ВМФ, ваеннага медыцынскага склада і некаторых іншых фарміраванняў. Але ў выніку ўзяў верх пункт гледжання беларускага боку.

Дарэчы, у газеце «Свабода» № 5 з'явіўся за маім подпісам матэрыял «Беларускае войска — 130 тысяч чалавек». На праверку высветлілася, што гэта адвольная кампіляцыя артыкула «Белорусская армия приобрела очертания» в «Независимой газете» от 6.05.92. Прычым нідзе няма спасылкі на крыніцу. Ніякіх артыкулаў у гэтае выданне я не аддаваў і ніхто не ўзгадняў са мной або з рэдакцыяй «НГ» права на перадрук без спасылкі на крыніцу. Але мала таго, што газета «Свабода» парушыла аўтарскае права, яна яшчэ і сказіла змест арыгінала, прыпісаўшы дэпутату Л. Прывалаву тыя словы, якіх ён не казаў. У прыватнасці, «Свабода» піша: «Як выказаўся старшыня падкамісіі ВС па абароне дэпутат Л. Прывалаў, «на ўсякі выпадак мы забралі адзін полк бамбардзіроўшчыкаў», у якім, па яго словах, «самыя сучасныя мадэлі самалётаў». У публікацыі ж «Независимой газеты» ясна сказана, што гэтыя словы належаць «прадстаўніку парламенцкай камісіі па абароне», прозвішча якога не называецца. Спасылка на Леаніда Прывалава ёсць ніжэй, але зусім з іншай нагоды. Між іншым, самыя сучасныя мадэлі самалётаў ёсць не толькі ў беларускім бамбардзіровачным палку, як мяркуе «Свабода», а і ва ўсіх авіяцыйных часцях, што адышлі да рэспублікі. Прыйдзецца падаваць на газету «Свабода» ў суд за парушэнне аўтарскіх правоў і скажэнне фактаў. Але вернемся да асноўнай тэмы артыкула.

У выніку дасягнутай дамоўленасці на тэрыторыі Беларусі застаецца значная групоўка стратэгічных сіл, падначаленая камандаванню АУС СНД.

У выніку падпісання Пратакола аб падзеле воінскіх часцей Беларусь у адну гадзіну ператварылася ў самую мілітарызаваную дзяржаву Еўропы. Колькасць узброеных сіл рэспублікі зараз складае 130 тысяч чалавек. Да беларускага войска практычна поўнасцю адыдуць часці сухапутных войск і паветранай абароны, за выключэннем некаторых навучальных цэнтраў. У рэспубліканскія Узброеныя Сілы ўвойдзе пераважная большасць знішчальнай і знішчальна-бамбардзіровачнай авіяцыі, адзін полк бамбардзіроўшчыкаў, полк транспартнай авіяцыі, ужо памянёная Віцебская дывізія ПДВ і некаторыя іншыя фарміраванні.

Але УС Беларусі будуць скарачацца. У перспектыве мяркуецца мець армію колькасцю 60—70 тысяч чалавек. Аднак у адпаведнасці з ваеннай дактрынай пераходнага перыяду колькасць УС пакуль будзе скарочана «толькі» на 40% і складзе 90 тысяч чалавек.

Што датычыцца пытання фінансавання УС, то, нягледзячы на магчымасць абысціся без закупак узбраенняў у бліжэйшыя 2—3 гады, расходы толькі на ўтрыманне такой вялікай арміі складуць каля 15 млрд. рублёў. Гэта больш за тыя 8 млрд. руб., якія закладзены ў Дзяржбюджэт Беларусі на гэты год, і асігнаванні на абарону прыйдзецца павялічваць. Але гэта ўдвая менш за тыя 30 млрд. руб., што патрабаваў Генштаб АУС СНД у аб'яднаны ваенны бюджэт напярэдадні кіеўскай сустрэчы на вышэйшым узроўні.

**Ігар СІНЯКЕВІЧ,**
**уласны карэспандэнт «Независимой газеты» (для «Звязды»).**

# ЧАМУ І ЯК БУДУЦЬ ВУЧЫЦЬ ГРАМАДЗЯН НЕЗАЛЕЖНАЙ БЕЛАРУСІ

**На пытанні карэспандэнта агенцтва «Інтэрфакс» адказвае міністр народнай адукацыі Рэспублікі Беларусь Віктар ГАЙСЁНАК.**

**— Віктар Анатольевіч, Беларусь абвясціла сябе незалежнай дзяржавай. Цяпер яна мае права самастойна, без якіх-небудзь узгадненняў ва ўжо неіснуючым цэнтры, вырашаць свой лёс. Як гэта адбілася і адаб'ецца на становішчы спраў у галіне народнай адукацыі?**

— Мы пачалі распрацоўку нацыянальнай сістэмы адукацыі праз рэфармаванне старой.

На мой погляд, перамены ў сістэме адукацыі ў значнай ступені павінны вызначаць тыя напрамкі ў народнай гаспадарцы, якія жыццёва неабходныя незалежнай беларускай дзяржаве. Напрыклад, рэспубліка адчувае цяжкасці ў сувязі з недахватам сыравіны і энерганосьбітаў для добра развітай у нас галіны — машынабудавання. А нетры ж нашы, аказваецца, казачна багатыя! Значыцца, патрэбны свае прафесіяналы-геолагі, «светлыя галовы» ў галіне рэсурса- і энергазберажэння. Фактычна сам-насам засталася Беларусь з чарнобыльскай бядой. Значыцца, патрэбны вучоныя-эколагі адпаведнага профілю. А колькі патрэбна зрабіць нам у сельскай гаспадарцы, іншых галінах!

У нас назіраецца найвастрэйшы дэфіцыт эканамістаў. Цяпер усе 33 ВНУ рэспублікі рыхтуюць толькі 10 працэнтаў спецыялістаў гэтага профілю ад агульнай колькасці выпускнікоў. А трэба было б 20, а то і 30 працэнтаў. Мала рыхтуюць у Беларусі прафесіяналаў у галіне знешнеэканамічнай дзейнасці. А без іх незалежнай дзяржаве ніяк не абысціся. Толькі пачынаем рыхтаваць сваіх беларускіх дыпламатаў. Яны таксама патрэбны самастойнай рэспубліцы. Затое інжынераў у нас — хоць адбаўляй. 40 працэнтаў усіх выпускнікоў рэспубліканскіх ВНУ. А ў развітых заходніх краінах усяго толькі каля 20 працэнтаў. Я не хачу сказаць, што мы слепа павінны пераймаць замежныя сістэмы адукацыі. Аднак сёе-тое пераняць адтуль, думаю, варта.

**— Напрыклад, што?**

— Хоць бы адмовіцца ад цяперашняй так званай «бясплатнай» адукацыі. Дарэчы, сапраўды бясплатнай яна ніколі не была: сродкі на ўтрыманне навучальных устаноў спаганяюцца з усяго насельніцтва праз падаткі. Але чаму чалавек, які не жадае сам вучыцца ў інстытуце, фактычна павінен са сваёй кішэні аплачваць вучобу зусім незнаёмых яму людзей?

**— Але плаціць за вучобу ў ВНУ, відаць, будзе не кожнаму па кішэні...**

— Безумоўна. І для такіх грамадзян лічу неабходным увесці спецыяльную дзяржаўную сістэму крэдытавання. Банк мог бы прадастаўляць пазыку, якую студэнты паступова выплачвалі б на пэўных, зразумела, не «драконаўскіх» умовах. Гэта дасць людзям роўныя, як, дарэчы і цяпер, стартавыя магчымасці ў жыцці. Не варта, на мой погляд, браць плату за вучобу ў звычайных сярэдніх школах. Класа, прыкладна, да дзевятага. Далей, у ПТВ, тэхнікумах і ВНУ, за вучобу трэба плаціць. Упэўнены, што гэта дасць станоўчы эфект. Прынамсі, чалавек за свае «кроўныя» сапраўды будзе імкнуцца добра вучыцца, не будзе прагульваць аплачаныя з яго ўласнай кішэні заняткі.

**— Незалежная Беларусь, мяркуючы па ўсім, не ўяўляе сваёй будучыні без рынку. Наколькі я зразумеў, вы маеце намер яго ствараць і ў галіне адукацыі. Якія яшчэ навінкі, акрамя вышэй памянутых, вы збіраецеся ўводзіць, бадай, у самым важным на сённяшні дзень напрамку — прафесіянальна-тэхнічнай адукацыі?**

— Цяперашняя сістэма ПТВ зусім не адпавядае патрабаванням сённяшняга дня і ў тым выглядзе, у якім знаходзіцца цяпер, абсалютна, на мой погляд, непрыдатная ва ўмовах рыначных адносін.

Па-першае, як правіла, нашы ПТВ рыхтуюць спецыялістаў занадта вузкага профілю, не даюць магчымасці навучэнцу авалодваць адразу некалькімі сумежнымі спецыяльнасцямі, як гэтага патрабуюць законы рынку. Але павінен адзначыць, рэальныя зрухі ў гэтым напрамку ўжо адбыліся. Жлобінскае ПТВ, напрыклад, пачало рыхтаваць фермераў — людзей, якія валодаюць практычна ўсімі сельскагаспадарчымі прафесіямі, якія могуць спатрэбіцца ў фермерскай дзейнасці.

Па-другое, дазволю сабе ўзяць пад сумненне неабходнасць прадастаўлення навучэнцам ПТВ сярэдняй адукацыі. Перакананы, дамінаваць тут павінна ўсё ж прафесіянальнае. Мэта ПТВ—падрыхтаваць маладога спецыяліста такога ўзроўню, які дазволіў бы яму з максімальнай выгадай для яго самога «прадаць» сябе працадаўцу.

Па-трэцяе, лічу неабходным у самы бліжэйшы час перагледзець профільную арыентацыю нашых ПТВ. Яна, на маю думку, не адпавядае ўнутраным патрэбам Беларусі.

Акрамя таго, бурнае развіццё знешнепалітычнай і знешнеэканамічнай дзейнасці нашай незалежнай рэспублікі патрабуе шмат перакладчыкаў. Іх на Беларусі рыхтуе толькі інстытут замежных моў. Лічу, што гэтага зусім недастаткова. Неабходна ў бліжэйшы час адкрыць некалькі ПТВ, якія рыхтавалі б «тлумачоў» для чыста тэхнічнай работы ў розных СП, дзяржаўных установах, прыватных фірмах.

**— З развалам СССР роля рускай як мовы міжнацыянальных зносін у Беларусі фармальна пачынае страчваць сваё значэнне. Па просьбах бацькоў у некаторых школах спыняецца выкладанне на рускай мове. Ці будзе ва ўпамянутых вамі ПТВ і Беларускім інстытуце замежных моў вывучацца руская як адна з замежных моў?**

— Магчыма калі-небудзь і будзе. Але не ў бліжэйшыя гады. Зусім з вамі згодны, што фармальна пазіцыі рускай мовы ў нашай рэспубліцы ў святле апошніх палітычных рашэнняў значна пахіснуліся. Аднак трэба зыходзіць з жыццёвых рэалій: адразу цалкам перайсці на беларускую мову насельніцтва рэспублікі не ў стане. З цягам часу сітуацыя можа змяніцца. Для гэтага многае трэба зрабіць. Сёе-тое ўжо робіцца. Так, у сярэдніх школах значна павялічваецца колькасць заняткаў па беларускай мове і літаратуры. Дарэчы, я лічу, што ў сярэдніх школах рускую мову трэба вывучаць з 4-га, а не з 1-га, як цяпер, класа. Дзецям цяжка асвойваць адразу дзве складаныя мовы. Актыўна вядзецца работа па стварэнню новых, беларускіх падручнікаў па розных дысцыплінах.

**— Але яны, здаецца, былі і раней.**

— Гэта былі звычайныя копіі агульнасаюзных падручнікаў, толькі на беларускай мове. Цяпер жа распрацоўваюцца сапраўды беларускія падручнікі і метадычныя дапаможнікі па літаратуры, гісторыі і многіх іншых прадметах з улікам нашых нацыянальных асаблівасцей.

**— Але тут жа, напэўна, узнікае мноства праблем. Дзе, на чым і на якія сродкі друкаваць гэтыя падручнікі? Кошт паперы і паліграфічных паслуг цяпер проста астранамічны!**

— Сапраўды, на сённяшні дзень гэта адна з асноўных нашых праблем. Раней падручнікі ў Беларусь прыходзілі па размеркаванню цэнтральных органаў з Расіі, а друкаваліся ва ўжо неіснуючай ГДР. Цяпер з падручнікамі цяжка. Кошт асобных экзэмпляраў даходзіць да 100 рублёў за адну кнігу. Калі ў 1991 годзе мы затрацілі на набыццё падручнікаў каля 10 мільёнаў рублёў, дык цяпер давядзецца раскашэльвацца ўжо на 500 мільёнаў. А ведаеце, колькі цяпер будзе каштаваць звычайная школьная дошка? Да 10 тысяч рублёў! Мы спрабуем знайсці выйсце са становішча, але не заўсёды гэта ўдаецца. Сітуацыя з матэрыяльна-тэхнічным забеспячэннем школ пакуль вельмі складаная. Крытычная сітуацыя склалася са школьнай мэбляй. Школы не ў стане яе купляць, і вытворцы яе пагражаюць спыніць выпуск мэблі, змяніць профіль. А што будзе далей? Не меншая праблема ў працэсе станаўлення беларускай нацыянальнай школы — кадравая. Большасць настаўнікаў не гатовы выкладаць на беларускай мове. Трэба ў самы бліжэйшы час праводзіць іх масавую перападрыхтоўку. Гэта вельмі складана.

**— Я чуў пра ваш намер правесці рэарганізацыю апаратаў Міністэрства народнай адукацыі і мясцовых упраўленняў. Гэта праўда?**

— Так. Перш за ўсё, павінны змяніцца функцыі міністэрства. Яно, на мой погляд, павінна стаць аналітычным цэнтрам, каардынатарам і памочнікам навучальных устаноў. Зыходзячы з гэтага, супрацоўнікі ўсіх «начальніцкіх» структур нашай сістэмы будуць набірацца ў штат выключна пад канкрэтную справу, якую-небудзь канкрэтную праграму. Гэта даўно стала нормай ва ўсім цывілізаваным свеце, куды мы збіраемся інтэгрыравацца. Для гэтага сістэме адукацыі незалежнай Беларусі трэба будзе прыняць некаторыя міжнародныя стандарты. Напрыклад, ужо з новага навучальнага года па некаторых спецыяльнасцях у БДУ ўводзяцца дзве акадэмічныя ступені—бакалаўра і магістра. У рэспубліцы адкрываецца мноства ліцэяў, гімназій, каледжаў. Паўсюднае ўкараненне розных форм вучобы лічу неабходным. Грамадзянін павінен мець магчымасць выбраць найбольш прыдатную для сябе.

Калі мы сапраўды хочам, каб узровень падрыхтоўкі ў нашых навучальных установах быў не горшы, чым ў амерыканскіх, германскіх ці якіх-небудзь іншых, нам трэба многае перагледзець у нашай свядомасці, адысці ад многіх стандартаў, пераняць усё лепшае з таго, што маюць сістэмы адукацыі іншых краін.

Гутарыў **Вячаслаў ЗЯНЬКОВІЧ.**

**Ужо больш месяца ў калгасе «Перамога» Бярэзінскага раёна пасуць жывёлу на летніх пашах. Кармоў з восені ў гаспадарцы было нарыхтавана дастаткова. Але ж ніякі нарыхтаваны ў запас корм не заменіць жывёле маладую сакавітую зеляніну. З пераходам на пашавы перыяд, натуральна, адразу ж павялічыліся надоі малака.**

**Трэці сезон пасе калгасны статак Іван Пятровіч ГАЙДУКОЎ, змяніўшы рычагі трактара на доўгую пастухоўскую пугу. Сюды ён прыехаў з Урала, услед за сёстрамі, што перасяліліся на Беларусь, ды так і застаўся. І ўжо больш за дзесяць гадоў працуе ў калгасе.**

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**

АКТУАЛЬНАЕ ІНТЭРВ'Ю

# ЗАКОН, ПА ЯКОМУ ВЫДАДУЦЬ ПЕНСІЮ

**Гэтага дакумента чакалі з такім нецярпеннем, як, відаць, ніводнага іншага. І перш-наперш ветэраны вайны і працы, пенсіянеры, інваліды — адным словам, тыя, чыё жыццё і далейшы лёс у многім залежаць ад таго, як будзе выконвацца і дзейнічаць Закон Рэспублікі Беларусь «Аб пенсіённым забеспячэнні». І хоць уступіць у дзеянне толькі з 1 студзеня 1993 года, зусім не лішнім будзе сказаць аб тым, што ён прынясе той катэгорыі насельніцтва, дзеля якой распрацоўваўся і якая больш за ўсё ў ім зацікаўлена, адчувае патрэбнасць.**

**— Чым вызначаецца новы Закон, якія яго характэрныя асаблівасці і перавагі ў параўнанні з пенсіённым заканадаўствам, што пакуль працягвае дзейнічаць цяпер?** З такога пытання пачалася наша размова з начальнікам упраўлення пенсій і дапамог Міністэрства сацыяльнага забеспячэння РБ **Уладзімірам Іванавічам ЖЫШКЕВІЧАМ.**

— Відаць, не памылюся, калі скажу, што па свайму аб'ёму (у 11 раздзелах налічваецца 96 артыкулаў), той важнасці і шырокаму колу пытанняў такі Закон у нашай рэспубліцы прыняты ўпершыню. Уключаны цэлы шэраг прынцыпова новых нормаў і палажэнняў, якіх наогул не было ў адпаведных саюзных заканадаўчых актах. Так, расшырана кола тых, хто мае права на пенсію па ўзросту на льготных умовах. З 1 студзеня наступнага года на 5 гадоў раней набудуць яго маці ваеннаслужачых, якія загінулі пры выкананні сваіх армейскіх абавязкаў, а таксама інваліды з дзяцінства. Павялічаны базавыя размеры пенсій па інваліднасці: на 20 працэнтаў для I групы і на 10 — для II і III груп. Адчувальна павышаны мінімальныя выплаты з выпадку страты кармільца. Напрыклад, на кожнага непрацаздольнага члена сям'і яны вызначаюцца ў размеры 30 працэнтаў сярэднямесячнага заработку кармільца, але не менш чым 100 працэнтаў мінімальнай пенсіі па ўзросту. Максімальна спрошчаны і уніфіцыраваны надбаўкі да пенсій і іх павышэнне па ўсіх катэгорыях, што выгадна адрознівае гэты Закон ад тых заканадаўчых актаў, якія дзейнічаюць цяпер.

Вось толькі некаторыя новаўвядзенні і перавагі гэтага дакумента. Але адначасова варта сказаць і аб тым, што яго нельга разглядаць неяк адасоблена.

**— Цікава, чаму? Што тут маецца на ўвазе?**

— Ды таму, што ён не будзе дзейнічаць сам па сабе, а цесна пераплятаецца з прынятымі законамі аб індэксацыі, інвалідах, ветэранах, а таксама з тымі, якія яшчэ набудуць юрыдычную сілу. Гэта, напрыклад, закон аб дапамогах сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей, падзаконныя акты, некаторыя іншыя пастановы і дакументы, над якімі зараз вядзецца ўзмоцненая работа.

Наогул Закон закране інтарэсы 2,3 мільёна пенсіянераў і больш за 200 тысяч чалавек, якія чакаюць «апошняга званка» перад выхадам на заслужаны адпачынак. Самая ж шматлікая катэгорыя (78 працэнтаў) — пенсіянеры па ўзросту. Каму не вядома, які нялёгкі зараз час, але ўсе змяненні, закладзеныя ў новым дакуменце, на тое і накіраваны, каб значна павысіць жыццёвы ўзровень гэтых людзей. Паводле папярэдніх падлікаў, расходы на выплаты ім павялічацца больш чым у 2 разы.

**— Усё гэта, вядома, добра. Але скажыце, Уладзімір Іванавіч, як пры назначэнні пенсій, іх пераразліку ўгнацца за пастаянным ростам цэн і адпаведна павышэннем зарплаты? Што, гэты марафон будзе працягвацца?..**

— Будзем спадзявацца, што яго ўдасца прыпыніць і наогул спыніць, калі стабілізуецца эканоміка і трывала стане на ногі. А пакуль даводзіцца прымаць тыя рэаліі, якія падкідвае жыццё.

Найбольш складанай праблемай, якая павінна быць вырашана пры ўвядзенні Закона ў дзеянне, з'яўляецца пераразлік раней назначаных пенсій. Нікому не навіна і не сакрэт, што пераважная большасць іх вызначалася ва ўмовах адносна невысокіх тэмпаў росту заработнай платы. Вось чаму пры рэзкім павелічэнні яе абсалютных размераў у апошні час фактычны заработак, узяты тады для налічэння пенсій, не адпавядае сённяшняму ўзроўню аплаты працы. Да таго ж многім ветэранам да гэтага часу не было асаблівай неабходнасці ўлічваць поўны працоўны стаж: ён ніколькі не ўплываў на размер пенсіі. Таму ў многіх проста «выпалі» гады працы ў даваенны і ваенны час, работа ў калгасах і саўгасах да 1965 года, выяўляецца шмат іншых розных выпадкаў. Менавіта з мэтай, каб нічога не забыць, не ўпусціць, цяпер і пераглядаецца літаральна кожная пенсіённая справа. Уяўляеце, які дадатковы аб'ём работы наваліўся на спецыялістаў сацзабеспячэння?! А ім жа неабходна выконваць і свае пастаянныя, штодзённыя абавязкі, якіх таксама шмат. А возьмем бясконцыя змены памераў мінімальных пенсій. Не паспеем зрабіць адзін пераразлік, як трэба брацца за чарговую арыфметыку. На жаль, нашы заканадаўцы ніяк не хочуць зразумець гэтага і не лічацца з намі. Паспешліва, у апошні момант прымаюць рашэнне, вызначаюць гранічна кароткі тэрмін — і неадкладна выконвайце. У выніку што? Проста фізічная немагчымасць своечасова зрабіць пераразлік пенсій і самае недаравальнае — затрымкі з іх выплатай, ад чаго церпяць перш-наперш тыя ж пенсіянеры, інваліды. Так што ў гэтай жыццёва важнай справе таксама павінна быць нейкая паслядоўнасць і разумная стабільнасць.

**— Многія аўтары пісьмаў скардзяцца на тое, што цяпер мінімальная пенсія ўстанаўліваецца і тым, хто мае вялікі працоўны стаж, і тым, хто ўсё жыццё біў лынды, адсядзеўся ў цяньку. Хіба ж гэта правільна, справядліва?**

— Не, гэта зусім не так. Тыя, хто шмат і шчыра папрацаваў, законам не абыдзены і не пакрыўджаны. (Скажам, артыкулы 23, 68—70 рэгулююць размеры пенсій, даюць магчымасць людзям атрымліваць іх дастаткова высокія — ад 55 да 75 працэнтаў свайго былога заработку. І гэты ўзровень будзе пастаянна падтрымлівацца). А што датычыць мінімальнай пенсіі па ўзросту, то яна ўстанаўліваецца ў размеры 100 працэнтаў мінімальнай заработнай платы, вызначанай заканадаўствам Рэспублікі Беларусь. Затое ў артыкуле 24-м дакладна сказана: «Асобам, якія не маюць дастатковага для назначэння поўнай пенсіі стажу работы, яна налічваецца прапарцыянальна наяўнаму стажу, але не менш 50 працэнтаў, а маці-гераіням — не менш 100 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту».

Я разумею, што больш за ўсё нездаволенасць выказваюць тыя, каго пазбавілі персанальных саюзных і рэспубліканскіх пенсій. Гэтыя людзі і нам падкідваюць нямала работы. Але яшчэ з часоў рымскага права існуе ісціна: «Закон суровы, але гэта — закон». Поўнасцю згодзен, што праблема тут ёсць, і яна сур'ёзная. Пенсія павінна быць у прамой залежнасці і ад працоўнага стажу, ад колькасці і якасці працы. Мінімальныя ж выплаты ўстаноўлены з той мэтай, каб падтрымаць тых, хто ўжо не можа займацца камерцыйнай, прадпрымальніцкай, творчай, іншай якой-небудзь эфектыўнай дзейнасцю. А зроблена гэта з гуманнага, а не з эканамічнага пункту погляду. І да такіх людзей, пакрыўджаных лёсам, варта ўсім аднесціся з разуменнем і талерантнасцю.

**— І ўсё ж як бы там ні было, перад сённяшнім рынкам, яго дзікімі цэнамі самымі безабароннымі апынуліся пенсіянеры. Ці ж не так?**

— Але ж рэаліі кожнага чалавека трэба супастаўляць з магчымасцямі дзяржавы. Калі сёння кожнаму пенсіянеру да яго штомесячнай выплаты прыплюсаваць нават па 10 рублёў (хоць гэта ж зусім мізэр), то агульная сума па рэспубліцы складзе 23 мільёны рублёў. Парайце, дзе іх узяць, калі бюджэт не дастатковы?

Так, новы Закон дае перадумовы да пераходу на індывідуальнае пенсіённае страхаванне, аднак гэта праблема не можа быць вырашана ў рамках толькі пенсіённага заканадаўства. Для гэтага неабходна рэформа заработнай платы. Тады адлічэнні ў фонд сацыяльнай абароны насельніцтва рэспублікі, з якога будуць выплачвацца пенсіі, праводзіліся б з заработку, налічанага канкрэтна рабочаму, калгасніку, служачаму, а не з агульнага фонду аплаты працы прадпрыемства, установы ці арганізацыі. На маю думку, гэта было б і правільна, і справядліва.

Гутарыў **Іван БРАЛКА.**

ПУНКТ ПОГЛЯДУ

# Эфект паддоследнай лягушкі

У ЧЫМ сутнасць гэтай з'явы ведаюць не толькі французы. Каб хто з'явіўся такі жорсткі, што наважыўся б зварыць жывую лягушку і кінуў яе для гэтага ў кіпень, то нічога не атрымалася б. Лягушка імгненна выскачыла б. Чалавек, узброены марксісцка-ленінскай тэорыяй, пэўна, падышоў бы да гэтай задачы інакш. Ён укінуў бы жывёліну ў посуд з халоднай вадой і пачаў яго павольна падаграваць на агні. Лягушка зварылася б.

Нешта падобнае вось ужо пэўны час адбываецца з нашым грамадствам. Працуюць прадпрыемствы, рэгулярна пастаўляюць прадукцыю ў Расію (асноўны партнёр Беларусі), але грошы адтуль за гэтую прадукцыю не атрымліваюць. Дакладней, атрымліваюць, але з наўмыснай затрымкай на некалькі месяцаў. За гэты час у выніку інфляцыі рубель абясцэньваецца прыкладна напалову, і «працавіты беларус» атрымлівае сваю зарплату за выпрацаваную прадукцыю ў той жа наяўнай грашовай колькасці, але фактычна напалову меншую па кошту. Толькі ён гэтага не ведае, бо верыць свайму наменклатурна - пракамуністычнаму кіраўніцтву, якое «памяркоўна» ідзе «ўслед за Расіяй». Такім чынам, Масква грэе рукі на інфляцыі за кошт Беларусі. Беларускае насельніцтва паступова, няўхільна бяднее, але маўчыць, бо... лягушка варыцца. Адкуль ёй, лягушцы, ведаць, што яе чакае. Як начальства скажа, так і будзе.

«Порвались прежние экономические связи», — з намёкам тлумачаць кіруючыя шыльдбюргеры. Тым часам «связи» ох якія моцныя. Адзін канец гэтай «связи» пятлёй на шыі ў беларуса, другі ў Маскве прывязаны да ручкі друкарскага станка, што штампуе рублі. Пакруціў ручку і... «чык» — задыхаецца «суверэнны».

За апошняга паўгода бачым, што здарылася: беларускія прадпрыемствы сядзяць на картатэцы, а працаўнікі без зарплаты. Масква прытрымала грашовую масу, астатняе зрабілі розныя тэмпы інфляцыі, перакос і розніца ў цэнах і спекуляцыя на гэтых з'явах, узведзеная ў ранг палітыкі.

Нічога не зробіш, давялося прыхільнікам «связи» тэрмінова ўводзіць шматразовыя купоны (разліковыя білеты). Пры гэтым па традыцыі сарамліва замоўчана, што ўвядзенне шматразовых купонаў як часовага сродку для абароны беларускага спажывецкага рынку і як прамежкавага кроку да ўвядзення талера запатрабавала дэпутацкая Апазіцыя БНФ яшчэ ў пачатку 1991 года. Патрабаванні і аргументацыю Апазіцыі іншыя «народныя абраннікі» спаткалі, як звычайна, улюлюканнем. Цяпер вось называюць гэтыя запозненыя шматразовыя купоны часовымі беларускімі грашамі, глядзяць на іх, як на панацэю ад сваёй бязглуздасці.

Панацэі не будзе. Гэта трэба абавязкова падкрэсліць. Разліковыя білеты, безумоўна, могуць палепшыць становішча (асабліва, каб іх выкарыстоўваць крыху інакш, як прапанавана). Але дзеянне іх часовае. Іх станоўчы эфект разлічаны на некалькі месяцаў (у лепшым выпадку да аднаго года). За гэты час трэба падрыхтаваць усё неабходнае для ўвядзення беларускай валюты (у тым ліку і надрукаваць талеры). Гэта велізарнейшая праца. Аб сутнасці яе тут казаць не буду (часткова пра гэта напісана ў нашай канцэпцыі развіцця эканомікі Беларусі). Аднак займацца цяпер неабходна толькі падрыхтоўкай да ўвядзення нацыянальнай валюты, а не новымі пошукамі прамежкавых варыянтаў. Беларусі варта браць прыклад з Эстоніі, дзе гэтая праца грунтоўна пастаўленая, а не, скажам, з Літвы, якая згубіла час якраз на часовых пераходных мерапрыемствах і зараз усведамляе свае пралікі.

Важнейшай часткай дзейнасці па забеспячэнню функцыянавання нацыянальнай валюты з'яўляецца ўладкаванне мытнай службы і дзяржаўнай мяжы па ўсім перыметры Беларусі. Без гэтага нацыянальная валюта не можа існаваць, а праца народа ў выніку ператвараецца ў марнатраўства (бо з яе спажываюць іншыя). Аднак якраз тут робіцца найменш, асабліва на расійскай і ўкраінскай межах, хоць усё трэба прадбачыць і рыхтаваць загадзя.

Суверэнная дзяржава мае аб'ектыўныя законы існавання. Трэба ў першую чаргу пабудаваць інстытуты яе жыццядзейнасці, да якіх адносяцца нацыянальная валюта, войска, мяжа і мытная сістэма, структуры замежных сувязей (пасольствы). Кожны адвачны элемент гэтай структуры дзяржаўнага існавання трэба даводзіць нашым кіруючым шыльдбюргерам і ўсё дарэмна, пакуль само жыццё іх не напалохае і не прымусіць рабіць, як людзі робяць. Зразумела, што нельга правесці рэформы і пабудаваць рынкавую эканоміку, не пабудаваўшы суверэннай дзяржавы. Гэта ўзаемазвязаны працэс. Цяпер ужо лопнула цярпенне, і прыйдзецца вырашаць стаўленне да кіраўніцтва на ўсебеларускім рэферэндуме аб новых выбарах Вярхоўнага Савета.

Аднак ёсць прычына агульная для ўсяго грамадства, якая ўскладняе эканамічна-палітычны крызіс на Беларусі, — гэта нізкая нацыянальна-культурная свядомасць беларусаў, малая сацыяльная актыўнасць людзей. Нацыянальна-культурная свядомасць ёсць аснова кансалідавання нацыі, здольнасці яе да калектыўных стваральных дзеянняў, да самавыжывання і гістарычнага развіцця. Ніякія эканамічныя праграмы неажыццявімыя і ніякія рэформы не спраўдзяцца, калі не адбудзецца культурна-нацыянальнага адраджэння на Беларусі. Культура — аснова эканомікі. Беларусь знаходзіцца ва ўнікальным стане, якога няма ні ў адной краіне СНД. Сутнасць яго ў тым, што беларуская нацыя, якая збіраецца будаваць суверэнную дзяржаву і ствараць рынкавую эканоміку, існуе ў самапрыгнечаным становішчы, у пазіцыі самападаўлення сваёй культуры і нацыянальнай мовы, у стане сацыяльнага самаразбурэння і дэградацыі этнасу. Такая супольнасць няздольная перамагаць грамадскія катаклізмы. Яна аслабленая. Праблема бяспечнага выхаду з чарнобыльскай катастрофы, напрыклад, у такой сітуацыі невырашальная, бо перамагчы катастрофу можа толькі сам народ (грамадства) коштам сваёй высокай самаарганізацыі. Здольнасць да самаарганізацыі ў нацыі з прыгнечанай культурай і неразвітой нацыянальнай свядомасцю мінімальная. Выхад, як гэта ні трывіяльна гучыць, — у духу. Не выпадкова Беларускі Народны Фронт называецца «Адраджэнне». Гэта ключ да гістарычнай перспектывы, да народнага быцця.

Пасля 25 жніўня 1991 года, прызнаюся, я з пэўнай асцярожнасцю назіраў за паводзінамі ўладнай наменклатуры. Цяпер пераканаўся (хоць і адразу было зразумела), што дарэмныя былі мае засцярогі. Справа ў тым, што тэарэтычна беларуская камнаменклатура мела рэдкую магчымасць адным махам адкінуць БНФ на перыферыю палітыкі. Для гэтага ёй, трымаючы ў руках усю ўладу, варта было толькі рэальна стаць на пазіцыі нацыянальна-культурнага адраджэння і нацыянальнага будаўніцтва суверэннай беларускай дзяржавы па прыкладу расійскай, украінскай, малдаўскай і іншай наменклатуры. Народнаму Фронту было б тады вельмі няпроста змагацца за дэмакратычныя рэформы з такой мабільнай наменклатурай. Аднак беларуская наменклатура, выхаваная на нацыянальна-нігілістычнай ідэалогіі і антынародных традыцыях КПБ—КПСС, аказалася па сваёй прыродзе няздольнай да мадэрнізацыі і рашучых палітычных паваротаў. Пастава яе парадаксальная, супярэчлівая і кансерватыўная. Яна, гэтак жа, як раней КПБ—КПСС, імкнецца ажыццяўляць манапалістычную ўладу ў нацыянальнай дзяржаве, з'яўляючыся адначасна магільшчыкам нацыі.

«Францыя — гэта французская мова», — сказаў нядаўна адзін французскі грамадска-палітычны дзеяч, прыехаўшы на Беларусь. Французы яшчэ мала ведаюць пра справы ў нашым гаспадарстве. Але на Захадзе няма дзяржаўных функцыянераў, што не ведалі б ці, тым больш, ненавідзелі б сваю нацыянальную мову. Нават вар'ятаў не існуе з такімі комплексамі. Вяртанне ў Еўропу без гуманітарных і культурных каштоўнасцей нацыі немагчымае. Месца такой страчанай супольнасці на задворках цывілізацыі. Вядома, беларускую экспартнаменклатуру гэта не хвалюе, што сведчыць пра зыбкасць яе стану, дачаснасць існавання, пра наканаванасць яе гібелі, хоць шлях Беларусі будзе нялёгкі.

Паводзіны Вярхоўнага Савета цяпер, напярэдадні рэферэндуму, нагадваюць дзеянні дрэннай футбольнай каманды, якая вядзе бязадрасную адбойную гульню. Прапануецца прыняць Закон аб прыватызацыі і — не прымаецца. Навошта? Наменклатурная ж «прыхватызацыя» і так ідзе паспяхова. Тады прапануе Апазіцыя Народнага Фронта праект закона аб прыватнай уласнасці на зямлю. Не трэба такога закона, — вырашылі «народныя абраннікі». Затым выносіць БНФ праект закона аб карупцыі. Але не патрэбны гэтым «народным абраннікам» і такі закон. Яшчэ чаго, і так адны непрыемнасці. Тады прапаноўвае Апазіцыя праект рэформы Вярхоўнага Савета. Але і рэфармавацца дэпутаты-наменклатуршчыкі таксама ня хочуць. І рэферэндуму не жадаюць, і рэформаў баяцца, і «языка не хацят». А калі прапанавалі «парламенту» прыняць прысягу на вернасць народу і дзяржаве Беларусь у нававыбранага міністра абароны, «народныя абраннікі» ажно рукамі замахалі — «не нада». Ну і ну, як кажуць, слоў няма. Перафразуючы Купалу — а чаго ж бы захацелася ім, сляпым, глухім? ... Пытанне для псіхолага.

Тым часам сыплецца пясок, абсыпаецца, растуць цэны, пашыраецца карупцыя, распадаецца навука, культура, мараль, людзі пачынаюць самі захопліваць зямлю, гоpшыцца, злавацца. Ці паспеюць зварыць лягушку адкормнікі КПСС? Прытым памяркоўна, каб згода ды кансалідацыя. Як кажуць — высветлім на рэферэндуме. А пакуль што хораша варымся, спадары.

**Зянон ПАЗЬНЯК,**
**народны дэпутат Беларусі.**

**АД РЭДАКЦЫІ.**

**Публікуючы артыкул лідэра апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Зянона Пазьняка, рэдакцыя спадзяецца на чытацкі рэзананс, на шырокую дыскусію эканамістаў, палітолагаў, грамадскіх дзеячаў аб шляхах выхаду краіны з эканамічнага і палітычнага крызісу.**

**Мусім зазначыць: катэгарычнасць многіх ацэнак, выказаных у артыкуле З. Пазьняка, на нашу думку, не можа лічыцца слушнай. У прыватнасці, сцвярджэнне аб тым, што Расія рабуе Беларусь, зацягваючы аплату паставак і выйграючы на інфляцыі, яўна састарэла. Як вядома, на ташкенцкай сустрэчы лідэраў дзяржаў дасягнута пагадненне аб папярэдняй аплаце ўсіх узаемных паставак.**

**Спрэчнымі выглядаюць і некаторыя іншыя адназначныя вывады З. Пазьняка, паводле якіх становішча ў сённяшнім беларускім грамадстве паказваецца аўтарам, на нашу думку, знарок спрошчана, схематызавана, без уліку многіх знешніх і ўнутраных фактараў.**

**Тым не менш «Звязда», з павагай ставячыся да пазіцыі аўтараў, і надалей гатова прадастаўляць свае старонкі не толькі тым, з чыімі меркаваннямі цалкам згодна.**

ВЫСТАВЫ

# «МАЛАХІТАВАЯ ШКАТУЛКА» — НА ГЕАФАКУ

**Біруза сімвалізуе капрыз, апал — зменлівасць і няўстойлівасць, сапфір — наадварот, пастаянства; ізумруд — надзею, тапаз — рэўнасць, сарданік — сямейнае шчасце, алмаз — цнатлівасць...**

**На выставе-продажы «Таямнічы свет каменя», якая працуе ў музеі землязнаўства геаграфічнага факультэта БДУ, можна прыўзняць заслону над загадкавасцю і магічнасцю каменя.**

Выстава арганізавана пры садзейнічанні Геаграфічнага таварыства рэспублікі. Тут прадстаўлены мінералы і горныя пароды ўсіх кантынентаў планеты.

— Вучоныя прыйшлі да высновы,— расказвае супрацоўнік музея Валянціна Смалякова,—што крышталі не толькі запамінаюць, але і перадаюць інфармацыю — зараз, дарэчы, уся суперсучасная тэхніка працуе на крышталях. Дык, магчыма, нашы продкі былі не такія далёкія ад ісціны, калі сцвярджалі, што камяні здольныя вылечваць хваробу і адганяць бяду, ратаваць ад зайздрасці і дрэнных думак, прываражваюць каханага... Між іншым, камяні здаўна былі і сімваламі прафесій: напрыклад, урачам для поспеху ў справе трэба было насіць пярсцёнкі з ізумрудамі, суддзям — з рубінамі, інжынерам — з бірузой. А вось аметыст лічыўся адначасова і салдацкім, і кардынальскім каменем.

Многія наведвальнікі прыходзяць на выставу са сваімі камянямі, каб высветліць альбо ўдакладніць параду. Тут можна зрабіць заказ на выраб упрыгажэнняў з камянёў, якія падыходзяць асабіста вам, ці проста заказаць калекцыйны матэрыял.

**Т. ПАДАЛЯК.**

